# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 38 (1532) ГОД XXX БЕЛАСТОК 22 ВЕРАСНЯ 1985 г. ЦАНА 10 зл.


## Патомны рабочы

Калі пра каго-небудзь можна сказаць, што ён патомны рабочы — то перш за ўсё пра Івана Верамюка з Гайнаўкі. Праўда, нарадзіўся ён у вёсцы Койлы ў Чыжоўскай гміне, але ў бацькі зямлі не было, і ўсё жыццё іхняе вялікай сям'і было звязана з працай у грамадскай гаспадарцы: бацька адразу пасля вызвалення стаў на працу на slavутым гайнаўскім тартаку, а маці — у сельскагаспадарчым кааператыве, як толькі паўстала ў Койлах гэтая гаспадарка. У даваеннай Польшчы, вядома, сям'ю Верамюкоў чакаў бы незайздросны лёс беззямельных парабкаў. Але яны жывуць у Народнай Польшчы, і кожны з іх заняў пачэснае месца ў нашым грамадстве: Ніна — кіраўнік вялікай тэкстыльнай крамы, Вольга — педагог, намеснік дырэктара Пачатковай школы № 1, Мар'я — працаўніца пошты, ён, Іван, — майстар на тартаку, бо і па сённяшні дзень людзі так называюць адно з найбольшых у краіне Гайнаўскае прадпрыемства драўніннай прамысловасці. І так, чацвёра Верамюкоў звязала свой дарослы, працоўны шлях з Гайнаўкай, а пяты, Васіль, падаўся далёка ад сваіх родных мясцін, бо аж на Шлёнск і выбраў сабе працу ў

(Працяг на стар. 3)






### АДВУЧЫЛІ

З велізарнай прыемнасцю і зацікаўленнем чытаў я адгалоскі Дзеда Кастуся, прысвечаныя паэзіі „белавежцаў", якія былі надрукаваны ў 29 нумары „Нівы", што выйшла ў свет 21 ліпеня 1985 года.

Дзед Кастусь на пачатку скардзіцца, што замалая адукацыя ягоная не дазваляе яму напісаць рэцэнзію на творчасць „белавежцаў", але на мой погляд: талент і ўменне глядзець на справу перавышае недахоп адукацыі Дзеда Кастуся. Хвала яму за гэта, але я сёння не аб таленавітасці Дзеда Кастуся хачу пісаць. Ён у сваім выказванні проста паддаў мне думку, каб падзяліцца з чытачамі сваім горам, якое на маю бяду прынесла цывілізацыя ў выглядзе электронікі, дэцыбелаў і іншага кацячага візгу. Ды яшчэ нідзе нельга напісаць, бо цябе зробяць дурным-дурненькім дурнем, бо цяперашняя музыка гэта ж музыка высакародных, моцных і з шырокім кругаглядам людзей, ды і канонам з'яўляецца. Я аднойчы не вытрымаў і пазваніў у рэдакцыю Польскага радыё ў Беластоку ды паскардзіўся, што не магу ўжо слухаць гэтых пастаянных візгаў, якія аж у мазгі колюць, а хацелася б радыё паслухаць, бо мо нешта цікавага дзеецца ў нашым рэгіёне. І, па-другое, ці нельга было б даць крыху і іншай музыкі акрамя англійскіх верашчанняў?

У радыё мне адказалі, што гэткая музыка з'яўляецца канонам нашай радыёвяшчальнай станцыі. Гэта ж абсурд, бо беластоцкае радыё слухае і крыху палякаў, і крыху беларусаў, а не толькі англічане. Прытым гэта радыё слухаюць не толькі адны снобы. Аднак, як паказвае сітуацыя, для рэдакцыі даражэйшы адзін сноб, чым група сталых, парадачных людзей, якія хацелі б паслухаць часам танга, вальс, народную песню, хаця б папалам з візгамі наркаманаў.

Дзед Кастусь, ды і не толькі ён, бо многа старэйшых людзей, памятае, што ў цяцідзесятыя гады маскоўскае радыё перадавала канцэрты па просьбе польскіх радыёслухачоў у 15 гадзін кожнае нядзелі. А я быў такім іх прыхільнікам, што мяне нідзе і нішто не магло ўтрымаць, каб не пабегчы дадому і не паслухаць. Я тады жыў у Варшаве.

(Працяг на стар. 3)

## НА ПУШЧАНСКІХ ПАЛЯНАХ

### У СКУПАВЕ

Пушча дыхала потам. Гэта было чуваць і відаць. Нашы ілбы пакрыліся кропелькамі і заплылі вочы. Пасля вялікіх дажджоў прыйшлі душныя 30-градусныя дні, і на пушчанскіх палянах стаяла непарушная духата. Старое, добрае Скупава параспаўзалася па ўсёй паляне, як бы без ладу і складу. Над хатамі — зялёнае пакрывала высокіх дрэў, што спрадвеку старожаць сяло.

Заходзім у мясцовую краму. Вельмі мілая прадаўшчыца ўсміхаецца нам, паказвае тавары. Купляем без макулатуры каструлю, зубную пасту. Усё тут ёсць. Жанчыны, смеючыся, запрашаюць прыязджаць да іх яшчэ.

У вёсцы Скупава жыве сам начальнік Нараўчанскай гміны і даязджае ў гміну кожны дзень. Кіруемся і мы тым жа следам. Мінаем Свінарої, дзе разбушавалася будаўніцтва жылых дамоў. Але якіх! Велізарных — ні то вілы, ні то блокі, з гаражамі і ўсімі выгодамі. Свінарої — вёска ляснічых. Ведаем, што такія хаты добрыя і кожны хоча ў такой жыць, але ў мяне дзесь там з глыбіні душы лезе, як смала, прымітыўнае пачуццё сімпатыі да тых скупаўскіх хацін — старых, драўляных, якія мы толькі што за сабою пакінулі. Бывае, такая дурная туга па свойскасці, якая гаворыць з табой тваёй мовай і працягвае з сардэчным жэстам шурпатую руку. А вілы-блокі, нават у Свінароях, халодныя і чужыя.

### У НАРАЎЦЫ

Начальніка гміны застаем. Толькі што вярнуўся з тэрэну. Запісваем цікавую інфармацыю, якую ён пачаў не ад гаспадарчай статыстыкі, а ад культуры — ад гміннай фотавыстаўкі „40-годдзе ПНР", ініцыятарам якой была гміна. Экспанавалася выстаўка ў Гмінным цэнтры культуры, якім кіруе **Ольга Закройшчык**, а ад 1 верасня пачала вандроўку па школах гміны — „каб дзеці бачылі, што зрабілі іх бацькі". 30 фатаграмаў прадстаўляюць самыя важныя аб'екты гміны, пабудаваныя за 40 гадоў нашай улады. Тут і керамічны завод, і мост, і дарогі, і злеўня, і школа, і пякарня, і асяродак адпачынку, і дом культуры. Добрая ініцыятыва і карысная дакументацыя гмінных дасягненняў. Фота выканаў Аляксей Келбашэўскі — фатограф з Гайнаўкі.

У далейшым слухаем пра культурны рух у гміне, які пачынае буйна развівацца: у Семяноўцы працуе мешаны фальклорны калектыў „Сямяне", яны іграюць і спяваюць. Калектыў

(Працяг на стар. 4)




## АБ ДЗЯРЖАЎНАСЦІ І НАЦЫЯНАЛЬНАСЦІ (IV)

Абыякавыя адносіны многіх беларусаў да сваёй нацыянальнасці вядуць іх у бок абыякавасці да роднай мовы. У такім працэсе ёсць свайго роду недарэчлівая „логіка“: калі беларус, блытаючы нацыянальнасць і дзяржаўнасць, прымазвaецца ў нашых беластоцкіх умовах да польскай нацыі, дык міжволі робіць далейшы „лагічны“ крок і пачынае выракацца сваёй мовы. Працэс гэты пачынае набіраць катастрафічнага характару. Не толькі неасвечаныя людзі, якія кіруюцца ў жыцці ўпрошчанай філасофіяй жыць выгадней і спакайней (а жыць выгадней і спакайней — значыць прыстасавацца да большасці), але і асобы адукаваныя ў галіне якраз беларусазнаўчай робяць усё, каб як найбольш паслядоўна адрачыся ад роднай мовы.

Не так даўно быў я на з'ездзе выпускнікоў Беларускага ліцэя ў Гайнаўцы. З'езд быў цудоўны, добра арганізаваны, глыбока ідэйны, а пры гэтым вясёлы. На жаль, нідзе ў ніякіх сітуацыях, хаця я гэтага вельмі чакаў, не ўдалося мне пачуць, каб яго ўдзельнікі гаварылі паміж сабою па-беларуску. Тое самае хачу з сорамам сказаць аб большасці студэнтаў Беларускай філалогіі варшаўскага універсітэта. Толькі некаторыя з іх гавораць між сабой на роднай мове, большасць гэтага не робіць.

Даходзіць да абсурду, які сведчыць аб крайняй збяднеласці беларускай душы. Здараецца, што такі студэнт, беларус, выпускнік беларускага ліцэя, актуальна студэнт Беларускай філалогіі, з выключнай напорыстасцю гаворачы са мною, кіраўніком кафедры Беларускай філалогіі, амаль што дэманстрацыйна, нягледзячы на тое, што заўсёды гавару па-беларуску, адказвае мне па-польску. Я асабіста з'яўляюся праціўнікам усякай нацыянальнай, а тым больш нацыяналістычнай, дэманстрацыі. Мне не падабаецца, калі нехта ў трамваі, на вуліцы ці сярод людзей, якія не ведаюць беларускай мовы, голасна і крыкліва гэтай мовай паслугоўваецца. Але не менш не падабаюцца мне людзі, якія з нявольніцкім страхам на твары і ў вачах азіраюцца вакол сябе, калі да іх адазвешся па-беларуску. Я асабіста паслядоўна, незалежна ад таго, дзе знаходжуся: у Варшаве, на вуліцы, у аўтобусе, ва універсітэце, без асаблівай крыклівасці, але і без нявольніцкага шэпту, нармальным голасам з беларусамі размаўляю па-беларуску, маю аж надта многа доказаў, што нармальны, разумны чалавек адносіцца да гэтага з поўным зразуменнем, а апінія дурняў ці нацыяналістаў мяне не цікавіць. Хай сабе думаюць і гавораць аба мне што хочуць.

Няма сумненняў, што наша нацыянальная драма не толькі з кожным годам, але і з кожным днём павялічваецца. Усё болей курчыцца абшар беларускасці. Дзеецца так нягледзячы на тое, што Народная Польшча стварыла як найбольш спрыяльныя ўмовы не толькі для захавання, але і развіцця нашай нацыянальнай спецыфікі. На жаль, нам, свядомым беларусам, не ўдалося зашчапіць у сэрцах многіх нашых землякоў пачуццё прывязанасці да ўсяго роднага, а з такога стану рэчаў толькі крок да страшнага — асіміляцыі.

**Алесь Барскі**




## СПРАЎЛЯЮЦЬ НАВАСЕЛЛІ

У вёсцы Астрамечава — цэнтральнай сядзібе калгаса-камбіната „Памяць Ільіча“ Брэсцкага раёна — вялікае наваселле. На вуліцы Свабоды будаўнікі здалі ў эксплуатацыю каля сарака добраўпарадкаваных кватэр. У іх пасяліліся сем'і механізатараў і жывёлаводаў. У кожным доме — адна-дзве кватэры з цэнтральным ацяпленнем, гарачай і халоднай вадой, прыродным газам. Ёсць падсобныя памяшканні, падвалы з некалькіх секцый.

Падрыхтавана да здачы ў эксплуатацыю яшчэ 17 катэджаў, а ўсяго па заказу калгаса-камбіната будаўнікі ўзводзяць у пасёлку 350 кватэр.

На будаўніцтва цэнтральнай сядзібы гэтай буйной гаспадаркі асігнавана больш за дзесяць мільёнаў рублёў.

## ПАЛІГЛОТ З СЕЛЬСКАЙ ШКОЛЫ

Новую методыку самастойнага вывучэння замежных моў распрацаваў сельскі педагог з Іўеўскага раёна П. Юргялевіч. Яго прапановы зацікавілі вучоных-педагогаў, па іх просьбе ён прачытаў некалькі лекцый у Мінскім і Даўгаўпілскім інстытутах замежных моў.

Трыццаціагадовы дырэктар Эйгердаўскай сярэдняй школы дасканала валодае васьмю мовамі. Свае поспехі ён тлумачыць не столькі здольнасцямі, колькі працавітасцю.

У багатай уласнай бібліятэцы паліглота, карыстацца якою могуць свабодна школьнікі, педагогі і студэнты, мноства кніг, газет і часопісаў на мовах, якімі ён валодае.

## НА КАНВЕЕРЫ — ГАЙ

Своеасаблівыя міні-гадавальнікі — саджанцы, вырашчаныя ў спецыяльных папяровых пакетах з пажыўнай глебай, — рыхтуюць і пастаўляюць лясгасам Беларусі спецыялісты Глыбоцкага доследнага лясгаса. Тут дзейнічае высокапрадукцыйная паўаўтаматычная лінія, якая кожную змену выпускае 150 тысяч пакетаў з насеннем, пасеяным у глебу. Пачалі рыхтаваць глыбоцкія лесаводы і саджанцы сасны звычайнай з прышчэпленымі на іх чаранкамі элітай сасны. У многіх раёнах рэспублікі будуць закладзены з іх насенныя плантацыі.

## СПОРТ

✲ На міжнародных спаборніцтвах на прызы газеты „Советский спорт“ у Маскве беларускія стралкі Ірына Шылава і Ігар Басінскі занялі другое і трэцяе месцы адпаведна.

✲ Зборная каманда Савецкага Саюза па класічнай барацьбе зноў заваявала першае месца на чэмпіянаце свету ў Нарвегіі.

У асабістым заліку сярэбраныя ўзнагароды заваявалі мінчане Аганес Аруцюнян і Міхаіл Пракудзін. Анатоль Федарэнка з Гродна заняў трэцяе месца.

✲ Лёгкаатлеты Мінска выйшлі пераможцамі паўфіналу Кубка СССР.

Высокія вынікі на гэтых спаборніцтвах паказалі беларускія спартсменкі А. Бляўская і І. Чайкоўская (скачкі).

✲ У ФРГ прайшоў міжнародны турнір лучнікаў.

Упэўненую перамогу на ім атрымалі спартсмены Савецкага Саюза. Сярод жанчын у асабістым заліку першае месца заняла магілёўчанка Алена Марфель.

✲ На чэмпіянаце Еўропы па скачках у ваду сярод юніёраў сярэбраны медаль заваяваў мінчанін Андрэй Квачынскі. Гэтыя спаборніцтвы прайшлі ў Швейцарыі.




## КНОПКА „СТРАШНАГА СУДА“

У амерыканскай ваенна-стратэгічнай дактрыне ёсць праблема, аб якой дагэтуль лічылі за лепшае не гаварыць. Гэта праблема аб прыняцці рашэння ў выпадку ядзернага канфлікту.

Далікатнасць праблемы заключаецца ў тым, што справа датычыць дзеяння прэзідэнта ЗША, на якога ўскладзена гэта рашэнне.

Прэзідэнт ЗША ніколі не можа быць на адзіноце: за ім пастаянна, як цень, ходзіць чалавек з чорным чамаданчыкам у руцэ. Ён начуе ў Белым доме, шэндаецца ў прыемнай у прэзідэнта і суправаджае яго ў час кожнай паездкі, пры кожным яго перамяшчэнні. Гэта таямнічая асоба — афіцэр Пентагона. А ў чамаданчыку знаходзяцца металічныя пласцінкі з сакрэтнымі кодамі. З іх дапамогай прэзідэнт у любы момант і ў любым месцы можа аддаць загад аб нанясенні ядзернага ўдару. Іншымі словамі, у гэтай маленькай чорнай скрыньцы сядзіць смерць усяго існуючага на нашай зямлі.

Перш за ўсё ўзнікае праблема маральная і палітычная. Хто ўручыў гэтую чорную скрынку амерыканскаму прэзідэнту? Хто даў яму паўнамоцтва на знішчэнне амерыканскага народа ці іншых народаў свету?

Але ёсць яшчэ і практычная праблема: ці будзе прэзідэнт у стане прыняць рашэнне аб удары ў адказ? Як зможа прэзідэнт прыняць такое рашэнне ў лічаныя мінуты, якія будуць у яго распараджэнні, у абставінах хааса ў выпадку ядзернага канфлікту?

Гэта праблема сёння якраз шырока абмяркоўваецца ў друку ЗША ў сувязі з выхадам кнігі, якая так і называецца — „Кнопка“. Яе напісаў былы дырэктар Саюза занепакоеных вучоных Даніел Форд. Вывад вучонага: прэзідэнт не ў стане прыняць рашэння аб удары ў адказ.

Уся сістэма „кантролю і запуску“, якая вызначае працэдуру прыняцця рашэння аб ядзерным удары, была створана ў 50—80-х гадах, і фактычна яна так і не прыстасавалася да сучаснай эвалюцыі ракетна-ядзернага ўзбраення. Цяпер патэнцыяльнаму праціўніку зусім не трэба выкарыстоўваць для першага ўдару ўвесь свой ракетна-ядзерны арсенал. Дастаткова паразіць жыццёва важныя цэнтры камандавання і сувязі. А іх некалькі дзесяткаў мішэняў. „Каб знішчыць гэтыя вузлы, — заўважае Форд, — не трэба нават ядзерных бомб. Дастаткова некалькі ўдарных атрадаў, узброеных базукамі“.

Форд даказвае, што амерыканскае ваеннае камандаванне знарок грэбавала мадэрнізацыяй „сістэмы кантролю і запуску“, таму што, хоць на словах яно выступае за дактрыну ўдару ў адказ, на самай справе Белы дом мае на прыкмеце ў выпадку вострага крызіса нанесці ўдар першым.

Штукі Люцыпара, якія мы ведаем з літаратуры, выглядаюць дзіцячымі свавольствамі ў параўнанні з уладай прэзідэнта, у руках якога „Кнопка Страшнага суда“.

**Ф. Б.**



Без слоў. Мал. А. Радвілавісіса (СССР).

# ПАТОМНЫ РАБОЧЫ

(Працяг са стар. 1)

найбольш шанаванай у нас прафесіі — шахцёра-забойшчыка.

— Для мяне ўзорам і прыкладам у жыцці з самага маленства быў бацька, — заўважае Іван Верамюк. — Ад самага пачатку і аж да выхаду на пенсію ён працаваў на гайнаўскім тартаку, усяго сябе аддаў працы і партыйнай дзейнасці.

І на самай справе, Ваня не толькі пераняў ад бацькі сваё імя. Узяў ад яго і ўсе паводзіны ў жыцці. Пайшоў у прафесіянальную школу, вывучыўся за слесара, паступіў на працу на бацькава прадпрыемства. Салідны, працавіты, сяброўскі. Яго адразу прыкмецілі і палюбілі сябры, ушанавала кіраўніцтва прадпрыемства і паставіла брыгадзірам. Тады Івану Верамюку споўнілася ўсяго 25 год і ён быў, мабыць, самым маладым брыгадзірам у гісторыі прадпрыемства. Гэта яму не ўскружыла галаву, але якраз схіліла быць яшчэ больш патрабавальным да сябе, сваіх паводзін, працы, адносін да людзей і накіравала... у тэхнікум, на завочнае аддзяленне. У 1974 г. ён паспяхова заканчвае вучобу і неўзабаве яго павышаюць на майстра механічнага аддзялення. Гэтую адказную функцыю ён паспяхова выконвае і па сённяшні дзень. Але не толькі праца, кіраванне калектывам, сям'я займаюць Івана Верамюка.

— Маё хобі — гэта спорт. Яшчэ ў сярэдняй школе палюбіўся ён мне, — прызнаецца ён. — У спартыўным клубе „Пушча" я не толькі аказаўся заядлым футбалістам, мяне нават назначылі капітанам спачатку маладзёжнай каманды, а потым сеньёраў.

Але спорт зусім не адзіная дзялянка грамадскай дзейнасці Івана Верамюка. Не меней энергіі і асабістага часу ён аддаў дзейнасці ў маладзёжным руху. Спачатку ў Саюзе сацыялістычнай моладзі сябры даверылі яму старшынства заводскага камітэта ЗМС, выбралі намеснікам старшыні Павятовага камітэта і членам Ваяводскай рэвізійнай камісіі ЗМС. Ён быў дэлегатам IV агульнапольскага з'езда ЗМС. І нават калі ўжо па ўзросту не можа ён належаць да маладзёжнай арганізацыі, то не гасне ў ім запал маладзёжнага важака. Мабыць, не выпадкова Ваяводскае праўленне ЗСМП спецыяльнай пастановай прызнала яму званне Ганаровага члена гэтай арганізацыі.

Вынесеныя ўменні і гарт з дзейнасці ў маладзёжнай арганізацыі І. Верамюк выдатна пашырыў і ўзбагаціў у партыйнай працы. З 1965 года ён — член ПАРП і шматгадовы актыўны дзеяч у заводскім партыйным камітэце.

Быць заўсёды з людзьмі, жыць іх справамі, клапаціцца пра грамадскае дабро — гэтым кіруецца ён у сваім жыцці. Таму і не выпадкова, што калі насталі бурлівыя часы другой паловы 1980 года, якраз ён і апынуўся ў цэнтры падзей. Выступаў за разважлівасць, удумлівасць, у абарону заваёваў сацыялістычнага ладу. Рабочыя выбралі яго старшынёй Заводскай рады бранжовых прафесіянальных саюзаў. І хоць праціўнікі моцна атакавалі іхнюю арганізацыю і яе старшыню, аднак ён і людзі не паддаліся — тры чвэрці працуючых на прадпрыемстве належала да бранжовых прафсаюзаў. Наколькі гайнаўскае асяроддзе леснікоў і драўнінікаў было моцнае і актыўнае, найлепш сведчыць факт, што менавіта ў Гайнаўцы праходзіў устаноўчы І краёвы з'езд Федэрацыі прафсаюзаў леснікоў і драўнінікаў. На ім І. Верамюк быў выбраны ў склад Прэзідыума Федэрацыі.

Ці часам гэтая штодзённая занятасць грамадскай дзейнасцю не засланіла І. Верамюку праблемаў прадпрыемства, на якім ён працуе?

— Цяжкасцей і ў нас хапае, — кажа ён. — Бачыце, у самыя цяжкія часы 1980—81 гадоў мы не баставалі, працавалі як належыца, прадукцыйнасць працы ў нас была высокая. Іншыя ж, вядома, пераважна сядзелі на машынах або валэндаліся на розных мітынгах. Цяпер у іх у параўнанні з тымі часамі вельмі высокі скок у прадукцыйнасці працы, значыць і заробкі выдатна ўзраслі. А ў нас прадукцыйнасць працы хоць і павысілася, але не так высока, як у бастуючых, таму і заработная плата не падскочыла. Крыўдна нам дзеецца! Але што ж ты зробіш?... Намагаемся лепшай арганізацыяй працы, ашчаднасцю матэрыялаў і энергіі, стараннымі рамонтамі машын павышаць прадукцыйнасць працы на прадпрыемстве. Аднак гэта нялёгкая справа, калі машыны ўстарэлі, рассыпаюцца, а з матэрыяламі вельмі цяжка. Вось, напрыклад, пастаянна нам бракуе пружынаў і іншых металічных частак да мэблі. А без іх — ані руш! Наогул, ва ўсёй драўнінай прамысловасці Польшчы паўстала вялікая і цяжкая праблема аднаўлення абсталявання ды механізацыі цяжкіх працаёмкіх работ. Нельга ж бясконца спіхваць усяго на чалавечыя мускулы. А тут усё сучаснае, навейшае абсталяванне для драўнінай прамысловасці вельмі дарагое ды і купляць яго даводзіцца за мяжой, прамысловасць жа наша бедная на валюту...

Ратуемся, як умеем ды можам. Вось з адпадкаў мы пачалі вырабляць высакаякасную, дасканалую мазаіку на падлогі ды абліцоўку (баазэрыю) на сцены. У мінулым годзе прадпрыемства за гэтыя вырабы атрымала каля 20 мільёнаў злотых, і гэты даход у большасці пайшоў на павышэнне заробкаў. Папраўілі мы ўмовы працы на прадпрыемстве, за апошнія гады здалі ў карыстанне працаўнікоў два выпачынкавыя аб'екты ў Рыбаках на Нарве і ў Агонках каля Вэнгажэва. У нас працуе шмат малазямельных сялян. Падпрыемства спрыяе ім таксама: дае адпускі на сенакос, жніво, капанне, прызнае пазыкі і некаторыя матэрыялы на пабудову аднасямейных домікаў. Не забываем і пра моладзь. Кожны малады чалавек, які прыходзіць да нас на работу, мае адказнага апекуна, той знаёміць яго з працай, прадпрыемствам, дбае, каб з маладога чалавека вырас сапраўдны кадравы працаўнік...

На сустрэчы прафсаюзных дзеячоў Беласточчыны з кандыдатамі ў паслы ў Сейм 30 жніўня г.г. у Беластоку адзін з маладых гайнаўскіх рабочых сцвердзіў:

— Ян Верамюк — гэта ахвярны прафсаюзны дзеяч, актыўны, адважны чалавек, які ў найцяжэйшыя часы не здрадзіў ідэям сацыялізму. Ён — патомны рабочы, прадаўжальнік найлепшых традыцый Чырвонай Гайнаўкі, ён — наш, рабочы кандыдат у паслы ў Сейм.



М. Гайдук
Фота аўтара

(Працяг са стар. 1)




Калі меў свабодную нядзелю і з сям'ёй паехаў на Віслу, то ўсё роўна перад канцэртам пёр дамоў і цягнуў за сабою сям'ю. Спярша жонка-полька не магла мяне зразумець, а пасля і сама хацела слухаць, бо пачула смак гэтых мелодый. І я любіў слухаць кожную музыку, аж пакуль у Беластоку не сустрэўся са Станам Барысам. Сатана падкусіла мяне пайсці на гэты канцэрт. Атрымаў я месца ў першым радзе пасярэдзіне, як нейкі прынц. Перад выступленнем Стана Барыса адбываўся конкурс на правы дарожнага руху, і мяне выбралі старшынёй журы. Кончыўся конкурс, я раздаў узнагароды і зноў заняў сваё „ганаровае" месца, чакаючы канцэрта. Бачу, увозяць грамадныя калоны, абставілі імі ўсю сцэну і абматалі правадамі, а пасля ўвайшоў на сцэну артыст з групай акампаніятараў. Божа, як пачалі біць у бубны, як пачалі верашчаць на ўсе магчымыя і немагчымыя галасы, то Стана Барыса гледачы толькі бачылі, а не чулі. У мяне сэрца перлася чагосьці пад горла, лёгкія дрыжэлі, язык вылазіў на бараду, а зубы цахалі. Хацеў усё кінуць і пайсці, але ж не гонар — людзі скажуць, што некультурны. Апух я, але дасядзеў да канца, абяцаючы сабе, што больш ніхто мяне не загоніць на падобны спектакль. І не пайшоў, ды і радыё выключаў. Але ж глядзі, аднаго разу, не так даўно прыехаў у Беласток калектыў песні і танца з беларускага калгаса „Прагрэс". Гэты калектыў спяваў цудоўна, але прыігрывалі яму беластоцкія музыканты з магнітафоннай стужкі. Гледачы, адным словам, публіка, паўпіхалі пальцы ў вушы і нейк да перапынку вытрывалі.

Ад таго часу я „пераношу" ўсяго толькі дзве песні: беларускую „Ой рэчанька, рэчанька" і ўкраінскую „Нэсэ Галя воду" і то толькі ў сваім выкананні. Вось, як мяне сучасная музыка адвучыла ад культуры. А паспрабуйце напішыце!

Васіль Петручук

## „НІВА" — ЯКАЯ ПАВІННА БЫЦЬ?

Мне шаснаццаць год. Я хацела б таксама прыняць удзел у дыскусіі аб „Ніве". Найперш аб тым, што мне падабаецца ў „Ніве". А вось яно: "Беларускі фальклор", „Ваенныя сцежкі" (тут у мяне ёсць ідэя: каб так моладзь апісала вобраз вайны, бачаны вачамі бацькоў і дзядоў. Не маглі б вы (значыць, рэдактары „Нівы") прысвяціць на гэта кавалак месца? Думаю, моладзь уцешыцца, што яе суседзі дзедка, або яшчэ блізкі хтосьці будзе паказаны на старонках „Нівы". „Сардэчныя тайны" і „Вер-не вер..." таксама патрэбныя. Але ці нельга было б яшчэ друкаваць у адрэзках сонік? (Даўней у „Пшыяцюлцы" ён друкаваўся, але мне не ўдалося сабраць гэтых адрэзкаў). І не

(Працяг на стар. 4)





# 130 ІКОН НА ВЫСТАЎЦЫ Ў БЕЛАСТОКУ

У залах Акругавага музея ў Беластоку 20 жніўня адкрылася цікавая выстаўка ікон, якія з'яўляюцца ўласнасцю гэтай пляцоўкі. Налічваючая амаль 130 штук беластоцкая калекцыя прадстаўлена ў палацы ўпершыню, хаця яе пачатак трэба шукаць 20 год назад, калі Тэкля Бяржэнюк перадала музею першы абраз.

У збор уваходзяць галоўным чынам помнікі XIX стагоддзя, звязаныя з культурай і традыцыямі паўночна-ўсходняга рэгіёна. Экспазіцыя прадстаўляе таксама металічныя абрадныя крыжы і падарожныя іконы, выкананыя з бронзы. (ПАП)

Фота **А. Сакульскага**



дабытая ў медсанбаце пры лячэнні. Зінчанка 1) на мяне накрычаў — апрануты не па форме. Шкада курткі, давядзецца каму-небудзь аддаць...

Вяртаемся ў тыл дугой. Перазджаем назад да канала — недалёка ад таго немецкага лазарэта і тых заводаў (што я меў на ўвазе, цяпер не памятаю!). Па дарозе на світанні спаткаў Пааса (Яфіма), з мінамётнай. Сфатаграфаваў мяне. Паказвае гармонік, смехам бяру. Развітваемся.

Недалёка канал.

Агнявыя паміж дамоў. Месца адкрытае, а ў зямлю не надта закапаешся — акамянела.

Як звычайна, раблю ямку не па статуту — пад лафетам (каб кожны раз пад агнём не бегаць!). Каманда страляць. Выпускаю 30 фугасных і тры падкаліберныя. Падкаліберныя даюць прыгожае полымя, як ад „панцэрфаўста", на сценах дамоў, куды страляю: там заселі нямецкія галаварэзы.

Працўнік агрызаецца густым навесным агнём з мінамётаў.

Спераду ад маёй гарматы праз крокаў дзесяць — глыбокі катлаван. Ён даўзёрны, агароджаны ад працўніка цаглянай сцяной. У ім сканцэнтраваўся батальён пяхоты перад атакай — чакаюць, калі скончыцца наш артналёт. Злева і справа ад мяне, узнімаючы вялізныя хмары пылу, даюць агонь „Т-34". Танкісты таксама на віду, але ім што — яны за браняй...

Заданне выканаў. Снарадаў больш няма. Вырашаю: у катлаване будзе бяспечней, няма чаго тырчаць пад кулямі.

Клічу свой разлік, ды імчым да пяхоты. Сядзім разам з ёю доўга. Настаюць ракавыя — 13 гадзін 00 мінут.

Пяхота ў катлаване ўзнімаецца, каб ісці на зыходныя — у яе неўзабаве атака. Мушу ўстаць, бо растопчуць, як жабу. Тырчу фронтам да цаглянай сцяны.

Тут гэта і здарылася.

Ззаду ў мяне на скошанай сценцы катлавана, на ўзроўні маіх грудзей, раптам выбухае пяхотная міна калібра 82 м/м. Адчуваю ў спіну страшэнны ўдар. Мяне з сілай шпурляе на камяністае дно жыватом уніз. Каска змякчыла ўдар твару аб пясок. Розум застаецца ясны, як ніколі. Ніжэй пояснiцы — амярцвела цела, не адчуваю і ног. Навокал крыкі параненых пехацінцаў. Чуваць, як лямантуе наш Разбекаў:

„Перавяжы-ы! Нічога не ба-ачу!..."

„А мне, — думаю са смяротным жахам, — ужо нічога не трэба, канец!"

Украінец-наводчык з другога ўзвода рве індывідуальныя пакеты ды перавязвае камандзіра гарматы. І тут спахопліваюся — магу варушыць пальцамі ног!

„Ага, значыць, не ўсё страчана?!"

Заматаўшы Разбекава, украінец падлятае да мяне. З маёй жа сумкі выхоплівае пакеты і

(Працяг на стар. 8)

## БІБЛІЯГРАФІЧНЫ КУТОЧАК

### АУКЦЫЕН У ПОЗНАНІ

У дн. 1—3 кастрычніка г.г. у Познані ў зале Дома культуры (на вул Арміі Чырвонай) адбудзецца кніжны аўкцыён. Ніжэй называем загалоўкі тых кніжак, якія, думаем, могуць зацікавіць нашых чытачоў.

Poz. 2. Abraham W. — Powstanie organizacyj Kościoła łacińskiego na Rusi. T. 1, Lwów 1904. Cena wywoławcza 1 tys. zł.

Poz. 47. Bartoszewicz K. — Radziwiłłowie... Warszawa 1928. C. w. 2 tys. zł.

Poz. 119. Bujnicki T. — Pamiątki historyczne Wileńszczyzny i Nowogródczyzny. Wilno 1935. C.w. 250 zł.

Poz. 200. Czarnowski O. — Polacy prawosławni na Rusi Brześć n/Bugiem 1927. C.w. 1,2 tys. zł.

Poz. 236. Dębiński K. — Raskoł i sekty prawosławnej cerkwi rosyjskiej. Warszawa 1910. C.w 600 zł.

Poz. 315.. Federowski M. — Lud białoruski na Rusi Litewskiej. T. 4. Warszawa 1935. C.w. 1,6 tys. zł.

Poz. 318. Fischer A — Rusini. Lwów 1928. C.w. 300 zł.

Poz. 410. Hedemann O. — Testamenty białorusko-dziśnieńskie XVII—XVIII wieku jako źródło historyczne. Wilno 1935. C.w. 250 zł.

Poz. 458. Яблочинский Свято-Онуфриевский Монастырь. Warszawa 1937 C.w. 250 zł.

Poz. 729. Lewkowicz K. — Krótki przewodnik. Wilno i bliższe okolice Wilno b.r.w. C.w. 360 zł.

Poz. 747. Lorentz S — Wycieczki po województwie wileńskim. Wilno 1932. C.w. 400 zł.

Poz. 856. Mścick; H. — Powstanie 1831 roku na Litwie Wspomnienia uczestników. Wilno 1931. C.w. 1,5 tys. zł.

Poz 921. Ogijenko I. — Powstanie alfabetu oraz języka literackiego u słowian. Warszawa 1927 C.w 400 zł.

Poz. 944 Ossendowski F.A. — Puszcze polskie Poznań b.r.w. C.w. 5 tys. zł.

Poz 1141. Prace Komisji Atlasu Historycznego Polski. Zeszyt 3 (w nim m.in.: Jakubowski J. — Powiat grodzieński w w. XVI). Kraków 1935 C.w 800 zł.

Poz. 1172. Siemieński L. — Podania i legendy polskie, ruskie, litewskie Poznań 1845. C.w. 1,6 tys. zł.

Poz. 1344. Wasilewski L. — Dzieje męczeńskie Podlasia i Chełmszczyzny. Kraków 1918 C.w. 500 zł.

Poz. 1478 Zgorzelski C. — Powstanie Styczniowe na terenie województwa nowogródzkiego. Wilno 1934. C.w 250 zł.

Poz. 1518. Swiechowski M. — Mapka narodowościowa i polityczna obszarów b. W.Ks. Litewskiego. Skala 1:2 000 000 (1921 r.). C.w. 600 zł.

У аўкцыёне можна таксама прыняць удзел пісьмова. Заказы трэба накіроўваць у адрас: Antykwariat Naukowy, Stary Rynek 53/54, 61-772 Poznań. У іх падаецца: нумар пазіцыі, прозвішча аўтара кніжкі, яе загаловак і найвялікшая сума грошай, якую заказчык можа заплаціць.

**П. Байко**

## Куток практычных ведаў

### БУЛЬБА

Бульба некаторых гатункаў вельмі разварваецца і ўбірае шмат вады. Пры варцы такой бульбы ваду рэкамендуецца зліць прыкладна праз 15 мінут пасля таго, як яна закіпіць. Пасля гэтага закрываюць пасуду накрыўкай і даварваюць бульбу пры мінімальнай колькасці вады на слабым агні.

### СМАЖАНАЯ СВІНІНА

Каб смажаная свініна была смачная і падрумяненая, перш чым паставіць яе ў духоўку, зрабіце вострым нажом некалькі глыбокіх надрэзаў на паверхні.

### ХРЭН

Хрэн лёгка натрэцца, калі яго на ноч пакінуць у халоднай вадзе.

# БЕЛАРУСКІ ФАЛЬКЛОР

У некаторых вёсках з раёна Бельска і Гайнаўкі, калі хлапец вельмі спадабаўся дзяўчыне і яе бацькам, дык маці дзяўчыны перад выхадам сватоў з хаты кідала ўпоперак сеняў нічальніцы. Існавала тут пераканнне, што калі сваты заблытаюцца нагамі ў нічальніцах, тады ўжо „не выблытаюцца" і не пазбегнуць вяселля.

Здараліся выпадкі, што пасля сватоў, якія, здавалася, закончыліся паспяхова, адна са старон траціла зацікаўленне магчымасцю заключэння сужонства. Гэта магло здарыцца па розных прычынах, найчасцей было яно вынікам так званых адгавораў. Заключаліся яны ў тым, што некаторыя выключна нядобразычлівыя людзі „спецыялізаваліся" ў ачарненні і кампраметаванні дзяўчыны ў вачах хлопца або хлопца ў вачах дзяўчыны. Нярэдка хлопец або дзяўчына давалі веру такім абгаворам і адступалі ад намеру заключыць вясельны акт. Зразумела, што маглі быць і іншыя прычыны адступлення маладога або маладой ад ідэі залажэння сям'і. Калі вытваралася такая сітуацыя, тады той, хто не хацеў прадаўжаць далейшыя вясельныя захады, адсылаў, без усякіх каментарыяў, хлеб „мінельнік". Было гэта раўназначнае з тым, што адзін з партнёраў траціць зацікаўленне вяселлем. Зразумела, што адасланне „мінельніка" ў значнай ступені кампраметавала той дом, у які хлеб быў звернуты. Якраз з гэтай прычыны здараліся выпадкі, што сям'я дзяўчыны або хлопца, даведаўшыся аб тым, што другі бок намерваецца ёй адаслаць хлеб-мінельнік, хутка сама адсылала хлеб. Рабіла гэта нават тады, калі як найбольш была зацікаўлена вяселлем. У вачах вясковай грамадскасці той быў верхам і той захоўваў ганаровую перамогу, хто перш адсылаў хлеб-мінельнік.

Няўдачны фінал сватоў вясковае асяроддзе квітавала іранічным: „Сучка каравай з'ела".

Варта яшчэ звярнуць увагу на характэрныя паводзіны сябровак і сяброў сватанай дзяўчыны. І так, калі сваты прыязджалі фурай, а здаралася гэта вельмі часта, калі сваты накіроўваліся не ў сваю, а ў чужую вёску, тады сяброўкі сватанай дзяўчыны выбіралі з воза сватоў сена і салому і высыпалі імі сцежкі да сваіх хат. Было гэта звязана з перакананнем, што на такіх дарожках да іх таксама хутка прыедуць сваты. У раёне Нарвы ў воз сватоў дзяўчаты стараліся ўвапхнуць старую мятлу. Такая мятла (праўдападобна, было гэта звязана з казачным матывам аб магчымасці лётаць на мятле) таксама мела гарантаваць хуткі адлёт замуж.

У некаторых мясцовасцях з раёна Мілейчыц, хлопцы з вёскі, у якую прыехалі сваты, без іх ведаў і дазволаў „пазычалі" іх каня з возам і ездзілі, часта ў адлеглыя вёскі, „на вечаркі" да дзяўчат. Гэта працэдура таксама мела спрыяць удачнай іх жаніцьбе. Цікава, што ў такіх працэдурах прымалі ўдзел таксама хлопцы, якія пакуль што не намерваліся жаніцца.

На Гайнаўшчыне здараліся выпадкі, што мясцовыя нарачоныя дзяўчат, якія прымалі сватоў, абразалі хвасты коням бацькоў гэтых дзяўчат. Быў гэта спецыфічны пратэст супраць таго, што такія дзяўчаты асмельваліся, маючы нарачоных, прымаць сватоў.

**А. Баршчэўскі**

(Працяг са стар. 7)

# ФРАНТАВЫ ДЗЁННІК

спрабуе перавязаць, але робіць гэта чамусьці няўпэўнена. Пытаю, што ён там бачыць. Маўчыць. Затым пачынае супакойваць. Я да яго са злосцю: што ты зубы загаворваеш, хутчэй кажы праўду! Вінавата гаворыць — у паясніцы і на баку вялікія бачыць раны, пакетаў трэба штук шэсць.

„Абматай хоць як!" — крычу.

Устаю сам і кірую ў перавязачны пункт. Адчуваю, як у рану засасвае паветра. Ага, кранула лёгкае! Дзірку на баку затыкаю кулаком.

З санроты вяртаюся зноў да гарматы, каб у санбат ісці разам з іншымі. Валакуць у павозку Разбекава, ён лямантуе, але паводзіны яго выглядаюць на сімуляцыю. На плашч-палатцы нясуць параненага Дубава. Садзяць нас траіх на фурманку. Збягаюцца ўсе батарэйцы. Хлопцы, кранутыя да слёз, перажываюць за нас, што праз які дзень-два і вайне канец. А мы?... Найбольш уражаны Задняявуліца. Прапануе гарачай стравы — пад'ехала кухня. Толькі цяпер заўважаю: а наш старшына, мабыць, мой аднагодак і толькі бываласць робіць яго такім салідным...

Такое адчуванне, бытта развітваемся назаўсёды. Што значыць франтавая дружба!

Прыязджаем у санбат.

Аперацыя пад навакаінавай анестэзіяй. Зашываюць нейкі „пнеўматоракс". У лёгкіх асколкі, але рэнтген толькі пакажа — колькі іх там. Чуваць, што хірург робіць у мяне на плячах, але мяне агортвае поўная абыякавасць.

**Аляксей Карпюк**

1) Ф. М. Зінчанка — камандзір 756-га стралковага палка. Потым стаў камендантам рэйхстага. Зараз — пенсіянер, жыве ў Чаркаску.

# ТАЯМНІЦЫ НАВОКАЛ НАС

## АЙЧЫННАЯ ЛІЯНА

Праўда, у нашым клімаце сапраўдныя, трапічныя ліяны не растуць. Але ці не заслугоўвае такой назвы расліна, якая за год патрапіць вырасці на 5—6 метраў? Якраз на столькі за год павялічваецца сцябло хмелю. Прапаную знайсці яго і пацікавіцца. На Беласточчыне хмель звычайны (лацінская назва — Humulus lupulus, chmiel zwyczajny — па-польску, хмель обыкновенный — па-руску) дзікарослы можна знайсці ў кустах на вільготных берагах рэк, радзей — у вільготных лясах або каля хатаў. Тонкія, гібкія сцябліны могуць падымацца ўверх, толькі абапіраючыся на што-небудзь. У лесе — на дрэвы, часцей за ўсё альху або вярбу, у агародзе — на плот або сцяну будынка, на плантацыі — на драты, расцягнутыя каля слупоў.

У нашым клімаце хмель — адзіная расліна, рост якой можна прыкмеціць падчас усяго толькі паўгадзіны назіранняў. Вясною сцябла хмелю прыбывае 30 см за суткі! Да падпоры сцябло прымацоўваецца пры дапамозе спецыяльных кручкаватых шыпікаў альбо абвіваецца навокал яе. Пры гэтым у яго цікавыя ўласцівасці: абвіваецца яно заўсёды згодна з рухам стрэлак гадзінніка і ніякая сіла не здолее змяніць гэтага кірунку. Апрача таго сцябло патрапіць „адчуць" падпору і заўсёды расце ў яе напрамку. Калі на некалькі гадзін перанесці падпору і паставіць з іншага боку, растучае сцябло зменіць кірунак свайго росту, сваіх пошукаў. У выпадку, калі хмель дойдзе да верхавіны слупа або дрэва, тады сцябло робіць некалькі абаротаў навокал свае восі і, не знайшоўшы падпоры, перастае расці.

Хмель — аднагадовая расліна, хоць яго карэнні разрастаюцца нават да 3 метраў углыб і ўшыр і жывуць 20—30 год. Якраз некалькі тыдняў таму назад аглядаў я корань хмелю, які выкапалі падчас меліяравання рэчкі Локніцы. Яго верхняя (або пачатковая) частка мясістая, тоўстая, як кулак асілка. Менавіта ў тым месцы, у т.з. „матцы", восенню расліна назапашвае жыццядайныя сродкі, дзякуючы якім можа гэтак хутка расці.

Хмель належыць да двухдомных раслін, гэта значыць, што на адной расліне знаходзяцца мужчынскія кветкі, а на іншай — жаночыя, якія завем „шышкамі". Менавіта гэтыя шышкі пачынаюць даспяваць у палове верасня, і яны — найважнейшая для чалавека частка гэтай расліны. На самай справе не столькі самыя шышкі, колькі маленечкія пухірочкі, якія знаходзяцца на лусках шышак. З гэтых пухіркоў высыпаецца жоўты парашок — лупулін. Ён складае 7—16 працэнтаў вагі неаплодненай і непераспелай шышкі (таму з плантацый старанна вырываюць усе мужчынскія расліны). Без лупуліну нельга нарыхтаваць добрага піва. Гэта ён дае напітку гаркаваты смак, своеасаблівы пах і засцерагае ад закісання. Варта, аднак, ведаць, што піва пачалі варыць толькі ў сярэднявеччы, раней жа хмель вырошчвалі ў асноўным на лякарства.



Сучасная медыцына даказала і гэтым самым пацвердзіла назіранні народнай медыцыны, што лупулін змяншае ўзбуджанасць, павялічвае выдзяленне страўнікавага соку і выяўляе бактэрыястатычнае дзеянне, а пры большых дозах — нават знішчае бактэрыі. Таму напаранне з шышак хмелю прымаюць як лякарства пры павышанай нервовай узбуджанасці, бяссонніцы, нервовым вычарпанні, недахопе страўнікавых кіслот і расстройстве стрававання, асабліва калі наступіла празмернае павелічэнне бактэрый.

У хатніх умовах напаранне з шышак хмелю можна нарыхтаваць у прапорцыі: адна сталовая лыжка сухіх шышак на шклянку кіпетню; прымаць па адной сталовай лыжцы 3-4 разы ў дзень. Знешне разведзенае напаранне прымяняюць для мыцця галавы пры раннім лысенні або перхаці ў валасах.

У ветэрынарыі шышкі хмелю прымяняюць пры пухлінах, для паляпшэння стрававання і пры аслабленні мускулаў у жывёлаў.

У хатняй гаспадарцы шышкі хмелю выкарыстоўваюць не толькі для нарыхтоўкі піва, але таксама да соўсаў, лікёраў, пры пячэнні хлеба.

Хмель належыць да тае сям'і раслін, што і каноплі. Яго сцябліны маюць тоўстыя валокны які выкарыстоўваюць для вырабу лінаў і картону.

Варта памятаць, што сабраныя на лякарства шышкі неабходна захоўваць у шчыльных пасудзінах (банкі, слоікі) не даўжэй, як адзін год часу.

**Б. Паскробка**

Мал. Б. Альшэўскага

(Працяг са стар. 9)

# ФАНТАЗЁР

новая. З іншай планеты. Я яе прыручаю...

— Што ты кажаш?! — разгубілася жанчына. — З якой планеты?

— Гэта Віталік такія фантазкі прыдумляе, — пачалі тлумачыць дзеці.

— Казкі?

— Ды не! Казкі для маленькіх. Фантазкі — зусім іншае.

Бываюць людзі, да якіх цягнецца ўсё добрае і прастадушнае: вось такая была цётка Паўла, старая настаўніца біялогіі, што пераехала да нас у дом. Як жа цікава слухаць яе! Разам з цёткай Паўлай хлопчыкі і дзяўчынкі часта ходзяць за горад. У час адной такой экспедыцыі да Віталіка і прыйшла чарговая ідэя:

— Давайце зробім у сваім двары батанічны сад!

Дзятва з захапленнем падтрымала прапанову, і Віталіка „панесла"... Сад зусім не падобны на іншыя сады. У ім малюсенькія дрэўцы і кусцікі, незвычайныя кветкі — такіх нідзе няма...

Цётка Паўла не спыняе Віталіка — такія дзівакі ўпрыгожвалі яе доўгае і вельмі цяжкае жыццё! І вясной, калі сышоў снег, яна сказала Віталіку:

— Збяры сваіх сяброў.

— Будзем сад садзіць? — узрадаваўся Віталік.

Пра што ўжо яны гаварылі, не ведаю. Толькі з дапамогай дзяцей цётка Паўла „экспрапрыіравала" далёкі і запушчаны ўчастак двара, разам з імі прыдумала назву: НДУ — Навукова-Доследны Участак. Цікава, праўда?

— А чаму ж не сказаць проста: доследны ўчастак?

— А чаму Віталік лятае на іншую планету? — усміхаецца цётка Паўла.

І ўсё-такі мудрая цётка Паўла, наколькі магла, „прызямліла" касмічныя палёты Віталікавай фантазіі. На градках, размешчаных бліжэй у кветніку, былі ўваткнуты калочкі з этыкеткамі. Розныя этыкеткі на розных градках: морква, салата, цыбуля, каляровая капуста. А вось гэта зусім загадкавая: „Як з адной бульбіны атрымаць вядро бульбы".

Далей ад градак клумба не клумба; незразумелае нешта: камені, паросль мохам, пышнае лісце папараці, нейкія доўгія сцяблінкі, травы з фігурнымі лісточкамі, знаёмыя зялёныя шарыкі і тоўсценькія кароткія сцяблінкі з мяккімі шышачкамі на канцах. Над усім гэтым — дзікая кветка з планеты Касманаўта. Прыгожа, але нязвыкла, а таму асабліва цікава. Гэта ўладанні Віталіка: ГПДР — Гадавальнік Прыручэння Дзікіх Раслін.

Ледзь дваровая дзятва прачнецца ўранні, адразу спяшаецца на свой НДУ. Калі градкі зазелянелі, вачэй ад іх не адарваць. Прыгажосць! Самі ж вырасцілі!

І раптам надзвычайнае здарэнне: на месцы злачынства, за крадзяжом радыскі, Мішка злавіў дыверсанта — Толіка-шкодніка. Суда не было. Мішка вынес прыгавор і прывёў яго ў выкананне. А на наступны дзень у двары разгарэўся сапраўдны скандал.

— Агарод на клумбе развялі! — крычала Толікава маці. — Дзецям галовы задурылі. За нейкую паршывую радыску майго хлопчыка ледзь не да паўсмерці збілі! Хуліганы!

Навошта выдумляць? Мішка абмежаваўся тым, што даў аднаго кухталя і паабяцаў дадаць у другі раз...

Цётка Вера таксама ўбаку не засталася:

— Кароў на клумбе пасвіць будуць. Думаеце, навошта Паўла агарод развяла? Свежанькай гародніны ёй захацелася!

Відаць, Толікава маці здзейсніла сваю пагрозу і паскардзілася куды трэба. У нашым двары з'явіўся дзядзька з кіраўніцтва спулдзельні.

— Гэта што? — грозна спытаў ён.

— Гэта НДУ, — адказала перапалоханая дзяжурная Оля.

— Што? Якое НДУ? Звычайны агарод у недазволеным месцы. А каменне навошта? Пустазелле навошта? Знішчыць!

Тут Віталік не вытрымаў:

— Гэта не пустазелле! Гэта кветка з іншай планеты. Я яе прыручаю...

Дзядзька ачмурэла паглядзеў на хлопчыка:

— Як гэта ўсё разумець? Здзекуешся?! За дурня прымаеш? Гэта вось — гародніна. Значыць, парушэнне. Вырваць. І пустазелле. Зразумела?

Калі прыйшла цётка Паўла спалоханыя дзеці расказалі ёй пра здарэнне.

— Вы не так зразумелі, — супакоіла іх цётка Паўла.

Аднак у той жа дзень у яе адбылася непрыемная размова з дворнічыхай цёткай Шурай.

— Мая справа маленькая, я не супраць, — паскардзілася цётка Шура, — а толькі кіраўнік загадаў мне знішчыць ваш агарод, пагражаў пазбавіць мяне прэміі, калі не выканаю...

Устрывожаная цётка Паўла вырашыла ўладзіць справу, ды не паспела.

Раніцай дзеці прыйшлі на свой НДУ і ўбачылі неверагоднае — усё было, як заўсёды. толькі не было Віталікавага ГПДР. Ні камення, нічога. Знікла і кветка з планеты Касманаўта.

Гэта практычная і гаспадарлівая цётка Шура вырашыла пачаць са знішчэння „пустазелля". На „агарод" не паднялася рукі.

... Віталік не плакаў. Ён акамянеў, а каменныя хлопчыкі, як вядома, плакаць не ўмеюць. Толькі было нясцерпна балюча сэрцу. Віталік задыхаўся, свет напоўніўся ліпкай, халоднай, цягучай цемрай...

Чым усё скончылася, не ведаю. Але веру: Віталік вырасце і абавязкова здзейсніць сваю Галоўную Мару...

## ЗАГАДКІ ПРА НЕБА І НЯБЕСНЫЯ СВЯЦІЛЫ

*1. Сіняя пасцілка ўвесь свет пакрыла.*

*2. Кругленька, бяленька, усяму свету міленька.*

*3. Вісіць сіта круглавіта, залатое, навітое.*

*4. У горадзе-гарадзе плыве талерачка па вадзе.*

*5. Глянеш — заплачаш, а ўсе яму рады.*

*6. Ходзіць курка-жаўтушка па сене і не шастае.*

*7. Мяту, мяту — не вымету, нашу, нашу — не вынашу, як пара прыйдзе — само яно выйдзе.*

*8. Што гэта за вочы: адно свеціць удзень, а другое — уночы.*

*9. Сястра да брата ў госці ідзе, а брат ад яе хаваецца.*

*10. На паляне сіняй пасецца конь сівы.*

*11. З высокай дарогі глядзіць бычок кругарогі.*

*12. Поле не змерана, быдла не злічана, пастух рагаты.*

*13. Пасцялю рагожку, насыплю гарошку, акрайчык хлебца пакладу.*

*14. Разасланa пасцілка, на пасцілцы рассыпаны сярэбраны пясочак, а пасярэдзіне залаты кружочак.*

*15. На полі Ярох рассыпаў гарох, стала світаць — няма чаго збіраць.*

*16. Кациліся каточкі па ліпавым масточку, як убачылі зорку, дык шмыг у норку.*

## АДГАДКІ

*1. Неба. 2—7 Сонца. 8—9. Сонца і месяц. 10—11. Месяц 12—14. Неба, зоркі, месяц. 15. Зоркі на небе. 16. Зоркі на небе перад світаннем.*

**(Зорчыны загадкі раю выкарыстоўваць у час школьных беларускіх вечароў).**

## Вясёлы куточак

* * *

— Паўлік, навошта ж ты адламаў ад нашага будзільніка нагу? — пытаецца мама.

— Ты ж сама ўчора казала што ён моцна спяшаецца.

* * *

— Пазыч мне дваццаць злотых!

— Не маю. У мяне ёсць толькі дзесяць.

— Дык пазыч дзесяць, а дзесяць будзеш мне вінны.

* * *

— Вельмі смачна вы зрабілі гэтыя грыбы. Адкуль вы ўзялі спосаб прыгатавання?

— Знайшла ў крымінальнай кніжцы.

* * *

На краме з рыбацкімі прыладамі вісіць картка:

„Калі ў вас не хапае цярплівасці пачакаць дзесяць мінут на прадаўшчыцу, дык няма сэнсу бавіцца ў рыбалова".

## Пазнаёмімся

* * *

СССР, 346415, Ростовская обл., г. Новочеркасск-15, ул. Мелеховская, 23, кв. 39. Виднюкова Лиля. 7 клас.

* * *

СССР, 301254, Тульская обл., Одоевский район, с/х Рылёвский, Киреечевой Оле. 7 клас.

* * *

СССР, 346514, Ростовская обл., г. Шахты-14, ул. Волошина, 24, кв. 4. Сорокиной Наташе. 12 год.

* * *

СССР, 346506, Ростовская обл., г. Шахты-6, пер. Сокольнический, 7, кв. 2. Шамаеву Николаю. 11 год.

* * *

СССР, 344041, г. Ростов-на-Дону, ул. Ерёменко, 7 „А", Субботина Н.

* * *

СССР, 163059, г. Архангельск, ул. Химиков, 3, кв. 8. Макаровой Наде. Хоча перапісвацца з вучнямі 4—5 класаў.

* * *

СССР, 346527, Ростовская обл., г. Шахты, ул. Текстильная, 17, кв. 246. Касановой Лене. 6 клас.

* * *

СССР, 346514, Ростовская обл., г. Шахты-14, ул. Перова, 31, кв. 7. Курмоярцевой Оксане. 4 клас.

* * *

СССР, 346514, Ростовская обл., г. Шахты-14, ул. Балтийская, 42/2. Мотиной Лене. 6 клас.

* * *

СССР, 353840, Краснодарский край, г. Славянск-на-Кубани, ул. Юных Коммунаров, 122/3. Пчельниковой Лине. 5 клас.

## А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А




**Хто з пажарнікаў не падключыў шланга да гідранта?**



Адрас рэдакцыі: „Зорка" 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1

